**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

27 снежня 2000 года
Цана 95 рублёў

№ 52 (2714)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


НАВАГОДНЯЕ ВІНШАВАННЕ

**Дарагія сябры! Завяршаецца другое тысячагоддзе. Нам наканавана жыць на пераломе стагоддзяў, тысячагоддзяў.**

**У апошнія дзесяцігоддзі дваццатага стагоддзя пачаўся актыўны працэс нацыянальна-культурнага адраджэння беларускай нацыі, адбылося яе самавызначэнне. У многіх краінах замежжа дзейнічаюць беларускія арганізацыі і культурныя цэнтры. Дзякуючы ім, захоўваецца беларуская культура ў свеце, і такім чынам пашыраецца яе ўклад у сусветную культуру.**

**Наш камітэт, іншыя дзяржаўныя структуры Беларусі прыкладаюць шмат намаганняў па падтрымцы ініцыятыў нашых суайчыннікаў за мяжой, у тым ліку ў адкрыцці і дзейнасці беларускамоўных школ у Польшчы, Літве і Латвіі, правядзенні штогадовых беларуска-польскіх канферэнцый "Шлях да ўзаемнасці", кангрэсаў міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, Дзён беларускай культуры і фестываляў беларускай песні, стварэнні помнікаў выдатным беларускім дзеячам, падтрыманні беларускіх тэле- і радыёпраграм у замежжы.**

**Уваходзячы ў трэцяе тысячагоддзе, мы павінны думаць аб будучыні разам. Трэба знайсці аптымальныя шляхі ўзаемасупрацоўніцтва дзеля таго, каб прыносіць максімальную карысць нашай радзіме, яе культуры і гісторыі, дзеля яе будучыні.**

**Віншуючы вас с Калядамі і Новым, 2001 годам, жадаю вам і вашым блізкім шчасця, творчых поспехаў і моцнага здароўя.**

**Аляксандр БІЛЫК,**
старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь.

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

АНГЛІЯ

**Жадаем рэдакцыі поспехаў у пашырэнні беларускага слова не толькі за межамі Беларусі, але і на Бацькаўшчыне.**

**Сыльвестар БУДКЕВІЧ.**

ІТАЛІЯ

**Дарагія сябры! Шлю вам прывітанне з Італіі і віншую з Новым, 2001 годам.**

**Спадзяюся, што з 2001 года родная Беларусь пачне жыць лепш. Гэтае пажаданне маё ад усяго сэрца.**

**Вялікі дзякуй за газеты, што мне дасылаеце, яны даюць магчымасць быць разам з маёй Радзімай.**

**Заўсёды ваша**

**Леанарда МАЛЕЕВА.**

НАТАТКІ З НАГОДЫ

## БЕЗ ЭЙФАРЫІ, АЛЕ З ПАШАНАЙ

**БЫЛІ АДЗНАЧАНЫ 80-я ЎГОДКІ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА ІМЯ Янкі КУПАЛЫ**

Без эйфарыі, бо цяпер першая сцэна рэспублікі і з гледзішча суб'ектыўнага пераважвае не самы лепшы перыяд у сваёй дзейнасці. Пакаленне акцёраў, якія здабылі купалаўскаму тэатру гучную славу не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі, спакваля адышло і сёння ўжо належыць гісторыі. Гэта Глебаў і Платонаў, Ржэцкая і Макарава, шмат хто яшчэ. Апошняй з кагорты слаўных заставалася жывая легенда — незабыўная Стафанія Станюта, якая сёлета адсвяткавала сваё 95-годдзе,

Заканчэнне на 2-й стар.



ГАСЦЁЎНЯ

## ІМКНУЦЦА РАБІЦЬ ДОБРЫЯ СПРАВЫ

*У снежні ў Мінску, як мы ўжо паведамлялі, адбылася II сесія III кангрэса Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. На яе з'ехалася шмат цікавых людзей — нашых землякоў, якія жывуць за межамі Беларусі. Падчас гэтага мерапрыемства мы і сустрэліся з Аляксандрам ГЛОДАМ, старшынёй аб'яднання беларусаў Масквы "Бацькаўшчына", намеснікам старшыні Савета федэральнай нацыянальна-культурай аўтаноміі "Беларусы Расіі".*

**— Напярэдадні Новага года звычайна падводзяць вынікі. Якім для вас быў 2000 год!**

— Напружаным, цікавым, шмат было зроблена розных добрых спраў.

**— Аляксандр Уладзіміравіч, чым поўніцца жыццё зямляцтва беларусаў у Маскве!**

— У Маскве каля 100 тысяч беларусаў. У кожнага свой лёс: адных запрасілі на працу ў саюзныя ведамствы, другія служылі ў арміі і там засталіся, трэція прыязджалі на будаўніцтва буйных аб'ектаў. Ёсць трэцяе-пятае пакаленні маскоўскіх беларусаў, продкі якіх прыехалі яшчэ ў царскі час, але і яны не забываюць пра сваё паходжанне. Раней, у 20—30 гады, было шмат беларускіх грамадскіх арганізацый: беларускі культурны цэнтр, зямляцтва беларускіх студэнтаў, а потым, недзе ў 1937 годзе, усе гэтыя арганізацыі былі ліквідаваны, і толькі ў 1989—1990 гадах, калі распаўся Савецкі Саюз, стварылася Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны. Першым кіраўніком быў доктар філалагічных навук, вядомы і ў Беларусі вучоны-філолаг Аляксей Каўка. Тады шмат праводзілася цікавых мерапрыемстваў: гэта былі лекцыі, семінары па гісторыі Беларусі, вечары, прысвечаныя юбілеям выдомых беларускіх пісьменнікаў, сустрэчы з пісьменнікамі і паэтамі — А. Адамовічам, В. Быкавым, В. Зуёнкам і іншымі. Але потым А. Каўка адышоў ад кіраўніцтва, а праца таварыства разладзілася.

— Заканчэнне на 2-й стар. —

ПАДАРОЖЖА ПА МІНСКУ







ФОТАФАКТЫ



## ЗОРКІ "АРКА ЕЎРОПЫ" ЎДАСТОЕНЫ МАГІЛЯЎЧАНЕ

● Аляксандр ТАЛОЧКА.

Магілёўскі аўтазавод — найбуйнейшае ў Еўропе прадпрыемства па выпуску землярыйна-трактарнай тэхнікі. Прадукцыя пастаўляецца спажыўцам Еўропы, Азіі, Афрыкі і Цэнтральнай Амерыкі. За высокую якасць і дзелавы імідж Магілёўскі аўтазавод удастоены ганаровай міжнароднай узнагароды — Залатой зоркі "Арка Еўропы".

Высокая якасць прадукцыі завода забяспечваецца прымяненнем сучасных тэхналогій і перадавых канструктарскіх рашэнняў. Адным з новых аддзелаў прадпрыемства стаў участак лазернай рэзкі металу, створаны ў садружнасці з Фізіка-тэхнічным інстытутам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

НА ЗДЫМКУ: аўтапагрузчыкі МААЗ 4048 гатовыя да адпраўкі спажыўцам.

## «ПАДОРЫМ СОНЦА ДЗЕЦЯМ»

● Раман КАБЯК.



Убачыўшы на экране тэлевізара перадачу пра Кобрынскі дзіцячы дом, Таццяна і Сяргей Косавы з Брэста вырашылі ўзяць у сваю сям'ю на некалькі месяцаў дзіця з гэтага дома. Але так прывязаліся да трохгадовай Наташы, што вырашылі пакінуць яе ў сябе назаўсёды. А вясёлая і гаваркая дзяўчынка займела такім чынам не толькі бацькоў, але і трынаццацігадовую сястру Кацю і цёцю Святлану. Знаходзячыся паўгода ў сям'і, дзяўчынка стала добра гаварыць і нават напісала першыя літары.

У Брэсцкай вобласці гэта не адзінкавы выпадак. У рамках акцыі "Падорым сонца дзецям" выхаванцы дзіцячага дома часта гасцююць у сем'ях, а затым многія або ўсынаўляюцца, або атрымліваюць апекуноў.

НА ЗДЫМКУ: вось такая зараз сям'я КОСАВЫХ.




## «ВОСТРАЎ СКАРБАЎ» У ВІЦЕБСКУ

Кафэ-бар "Востраў скарбаў" адкрыўся ў Віцебскім вытворчым аб'яднанні "Віцязь". Яго наведвальнікамі сталі не толькі працаўнікі завода, але і гараджане. А абслугоўваюць тут афіцыянты ў форме піратаў.

НА ЗДЫМКУ: такіх парасят прапануюць "піраты" наведвальнікам.

Аляксандр ХІТРОЎ.

ГАСЦЁЎНЯ

# ІМКНУЦЦА РАБІЦЬ ДОБРЫЯ СПРАВЫ

Пачатак на 1-й стар.

У 1992 годзе пасля ўстаноўчага з'езда "Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" было створана аб'яднанне беларусаў Масквы "Бацькаўшчына", якое сабрала вакол сябе каля 300 чалавек. Гэта грамадская арганізацыя працуе да сёння. І таксама праводзіць вялікую работу. Варта ўспомніць выданне кніжак: "Беларускі рух", "Вялікая ласка" (пра Скарыну), "Літва-Русь-Беларусь" (пра Улашчыка), дапамогу людзям, якія маюць праблемы, праведзене розных вечароў, свята беларусаў у Сакольніках.

**— Дзе вы бераце сродкі для ўсяго гэтага?**

— Шмат хто з беларусаў працуе ў розных моцных структурах і не адмаўляе ў дапамозе. Хочацца адзначыць В. Буката, які працаваў у вядомым "Мостбізнесбанку", Якава Дубянецкага з "Прамбудбанка", а таксама ўрад Масквы.

Наогул, у Маскве нацыянальныя пытанні вырашаюцца добра. Тут пражываюць прадстаўнікі каля 100 нацыянальнасцей, і іх праблемамі займаецца спецыяльны камітэт пры ўрадзе Масквы. А нядаўна ў Расійскай Фэдэрацыі быў прыняты Закон па нацыянальна-культурных аўтаноміях, які прадугледжвае фінансаванне з федэральнага ці мясцовага бюджэту арэнды памяшканняў для іх патрэб ці выдзяленне іх ва ўласнасць, утварэнне фондаў.

**— А дзе размяшчаецца ваша арганізацыя?**

— Наш офіс часова знаходзіўся ў гасцініцы пасольства Беларусі ў Расійскай Федэрацыі, а нядаўна мэр Масквы Ю. Лужкоў выдзеліў памяшканне для беларускіх грамадскіх арганізацый. У ім плануем размясціць беларускую бібліятэку, беларускі культурна-інфармацыйны цэнтр, нацыянальнае кафэ і іншае.

**— Ці шмат маскоўскіх беларусаў збіраецца на мерапрыемствы, якія праводзяцца вамі?**

— Калі прыязджаюць з Беларусі вядомыя ансамблі, такія, як "Песняры", "Сябры", "Харошкі", тады шмат людзей прыходзіць, а вось на вечар паэзіі меней, у асноўным аматары. У мінулым месяцы правялі ў Маскоўскім Доме літаратара вечар, прысвечаны 70-годдзю У. Караткевіча. Сабралася чалавек 200. Прыязджаў з Мінска Адам Мальдзіс, які добра ведаў пісьменніка. Пагледзелі дакументальны фільм, выступалі мясцовыя літаратары Іван Карэнда і Алесь Кажадуб, арганізавалі сіламі беларусаў канцэрт. У нас жа ў актыве цудоўныя таленты: заслужаная артыстка Расіі Ларыса Трухіна з Гомеля, якая спявае беларускія і рускія народныя песні, класічныя спевакі — Людміла Іларыёнава са Слоніма (працавала ў Вялікім тэатры) і непаўторны бас (амаль Шаляпін) Уладзімір Цвярскі, ёсць невялікая вакальная група "Кірмаш", якая душэўна выконвае беларускія народныя песні. На Дзень Рэспублікі Беларусь у Доме ветэранаў сабралася звыш 400 удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, якія ваявалі ў Беларусі.



*Аляксандр ГЛОД.*

**— Як у будучыні вы мяркуеце арганізоўваць сваю працу?**

— Мы стварылі ў Маскве яшчэ і рэгіянальную культурна-нацыянальную арганізацыю "Беларусы Масквы", і штаб федэральнай нацыянальнай аўтаноміі "Беларусы Расіі", які аб'ядноўвае ўсе грамадскія беларускія нацыянальныя арганізацыі Расіі. Будзем дапамагаць адзін аднаму ў прапагандзе беларускай культуры, захаванні і развіцці сувязей паміж народамі Беларусі і Расіі.

Мне не падабаецца, калі асобныя беларусы, якія жывуць за мяжой, хочуць нечаму навучыць. Лічу, што, хоць мы і беларусы, але грамадзяне іншых краін. Хоць мы і сочым за падзеямі, але вучыць жыць тых, хто жыве тут, на Беларусі, — не наша задача. Наша мэта — дапамагаць Радзіме, яе людзям, клапаціцца пра добрае імя Беларусі. Вы тут жывяце і самі павінны выбіраць, як вам жыць. Мы не павінны ўмешвацца ва ўнутраныя справы краіны. Некаторыя адмоўна адносяцца да стварэння Саюзнай дзяржавы, але такое адчуванне, што яны нават не трымалі ў руках адпаведны закон. Там ясна напісана, што суверэнітэт дзяржавы захоўваецца.

Трэба будаваць такія адносіны паміж Расіяй і Беларуссю, каб усе дзяржавы і людзі зайздросцілі, каб не было межаў, мытняў, каб людзі маглі свабодна ездзіць. Мэта дагавора — палепшыць умовы жыцця грамадзян і Расіі, і Беларусі.

На Беларусі, трэба сказаць, цяпер сітуацыя больш-менш стабільная ў параўнанні з іншымі, напрыклад з Украінай, ды і з Расіяй. Праўда, у Маскве не столькі праблем, колькі ў рэгіёнах.

**— Якія падзеі мінулага года найбольш важныя для вас асабіста?**

— Як заўсёды, лепшы ўспамін — адпачынак у роднай вёсцы. Нягледзячы на тое, што больш за 20 гадоў жыву ў Маскве, на адпачынак заўсёды прыязджаю толькі ў Беларусь, у Гродзенскую вобласць, Мастоўскі раён, дзе жыве ў вёсцы мая маці. Адпачынак — гэта ўмоўна, бо прыходзіцца шмат дапамагаць, працавац фізічна.

**— Сумуеце па Беларусі?**

— Цягне ў родныя мясціны. Кожны раз абыходжу знаёмыя сцяжынкі, дзе калісьці бегаў хлапчуком, сустракаюся са сваякамі, наведваю магілы дзядоў і бабуль, а потым, заспакоены, зноў вяртаюся ў шумлівую Маскву.

У Маскве прайшла значная частка майго жыцця. Тут жыве мой малодшы брат з сям'ёй, таварышы, аднакурснікі з Ваеннай акадэміі. Па адукацыі я — ваенны юрыст, але ўжо ў запасе.

**— Вы добра размаўляеце пабеларуску. За столькі гадоў не забыліся!**

— Пасля школы працаваў у Зэльвенскай раённай беларускамоўнай газеце "Праца". Добра засвоіў мову, і яна не забываецца.

**— Напярэдадні Новага года, на пачатку новага стагоддзя, тысячагоддзя, што б пажадалі сабе і чытачам "Голасу Радзімы"!**

— Каб быў здаровым і каб быў спакой на душы. Трэба рабіць добрыя справы. Мне здаецца, калі не зрабіў добрай справы, то дзень прайшоў дарэмна.

Гутарыла **Таццяна КУВАРЫНА.**

НАТАТКІ З НАГОДЫ

# БЕЗ ЭЙФАРЫІ,

Пачатак на 1-й стар.

але да юбілею тэатра не дажыла ўсяго некалькі дзён...

У сённяшнім складзе праслаўленага калектыву таксама шмат выдатных майстроў, але так склалася, што многія з іх сваю вядомасць набылі некалькі дзесяцігоддзяў назад і нібы законсерваваліся ў дасягнутым. У якасці найбольш яскравага прыкладу назаву тут Лілію Давідовіч і Генадзя Гарбука, якія ў нашай свядомасці найперш прысутнічаюць выдатна сыгранымі ролямі Ганны і Васіля ў "Людзях на балоце" Івана Мележа. Да іх няга дапасуецца ўзлёт яшчэ аднаго выдатнага акцёра, уладальніка надзвычай адметнага, арганічна беларускага таленту — Генадзя Аўсяннікава, які здзейсніў сябе як творчую асобу найперш на драматургіі Андрэя Макаёнка. Ды, як ні парадаксальна, хоць яна склала (такое не адзін раз гучала ў слове выступоўцаў) цэлую эпоху ў гісторыі тэатра, але цяпер цалкам знікла з рэпертуару і купалаўскага, і іншых беларускіх тэатраў. І не па прычыне сваёй састарэласці, а з-за нашай замшэлай абыякавасці да нацыянальнай спадчыны, пра што таксама ішла гаворка на гэтай юбілейнай вечарыне, а крыху раней і значна шырэй у Доме літаратара, дзе грамадскасцю адзначалася круглая дата з дня нараджэння славутага беларускага драматурга, п'есы якога зусім нядаўна ставіліся ў сотнях тэатраў колішняга Савецкага Саюза.

Сярод іншых галоўны рэжысёр і мастацкі кіраўнік купалаўцаў Валерый Раеўскі таксама з пачуцём віны прызнаваў вострую актуальнасць і для нашага часу Макаёнкавых п'ес ды патрэбу аднаўлення некаторых з іх у рэпертуары тэатра. Дай Божа! Бо тут ідзе размова не проста пра даніну пашаны і справядлівасць, а пра надзвычай істотны момант самасцвярджэння як тэатра, так і яго вядучых майстроў, усяго калектыву. Так ужо зладжана жыццё: нацыя, яе духоўная існасць, гэта значыць культура, могуць годна заявіць пра сябе і сцвердзіцца ў свеце толькі праз самарэалізацыю на сваім уласным грунце.

У пацвярджэнне сказанага да вышэйзгаданых далучу яшчэ два прозвішчы маладзейшых, але на сёння, бадай, самых перспектыўных і дзейсных артыстаў — Зоі Белахвосцік і Віктара Манаева. У іх набытку шмат добрых і цікавых роляў, але ў свядомасці гледачоў, мяркую, найбольш асацыяцый з вобразамі Паўлінкі і Мікіты Зносака — героямі п'ес Янкі Купалы. Калі



АСОБА



***"Дзіўны дар прыроды вечнай" — так паэтычна ўспрыняла сваю здольнасць бачыць навакольны свет Іаланта з аднайменнай оперы Пятра Чайкоўскага. Гэты вобраз на доўгія гады застаўся ў душы вядомага афтальмолага, кандыдата медыцынскіх навук Уладзіслава Бірана. На яго рахунку больш 12 тысяч аперацый. Многім людзям ён вярнуў зрок, часам ратуючы іх ад немінучай слепаты. За гады саракагадовай практыкі здараліся унікальныя выпадкі, калі нават кансіліум урачоў не заўсёды мог дакладна вызначыць дыягназ. Вялікая працаздольнасць і ясны розум Уладзіслава Бірана дапамаглі беларускай медыцынскай навуцы вырашыць шматлікія праблемы. І як вынік — новая, ужо пятая, яго кніга "Рэдкая афтальмапаталогія ў дзяцей", якая павінна неўзабаве выйсці ў выдавецтве "Тэхнапрынт". Аўтар апісвае больш за 400 захворванняў вачэй, і кожнаму з іх дае разгадку і "ключ" да выратавання. Сёння Уладзіслаў БІРАН — наш госць.***

# А БОЙХІС ВАЧАМ СВАІМ НЕ ПАВЕРЫЎ БЫ...

**— Уладзіслаў Платонавіч, параўноўваючы 50-я гады, калі вы толькі пачыналі працаваць у галіне афтальмалогіі, з днём сённяшнім, якую розніцу вы бачыце?**

— Розніца істотная. Калі, скажам, 43 гады назад блізарукіх школьнікаў было 2—3 працэнты, то цяпер такіх — 50—60 працэнтаў. Кожны другі з атэстатам сталасці атрымлівае ў дадатак і акуляры. А калі ўлічыць і іншую паталогію, то гэты працэнт будзе яшчэ больш значным.

**— Але гэтая, здавалася б, бяскрыўдная блізарукасць можа прывесці да інваліднасці?**

— Блізарукасць — далёка не бяскрыўдная паталогія вачэй. Блізарукі чалавек не толькі больш бездапаможны ў гэтым свеце. Пры некаторых абставінах ён увогуле можа стаць сляпым.

**— А як жа дапамагчы такім людзям?**

— У той час, калі я працаваў дзіцячым афтальмолагам Мінска — васемнаццаць гадоў я загадваў аддзяленнем ў дзіцячай бальніцы, а цяпер я на пенсіі, кансультую ў першым супрацьтуберкулёзным дыспансеры, — сумесна з гарадскім аддзелам адукацыі мы вельмі актыўна працавалі ў гэтым накірунку. Была арганізавана спецыялізаваная дзіцячая служба. Распрацоўвалі тэсты сучаснага выяўлення блізарукасці. Укаранілі сістэму лячэння і прафілактыкі. На кожныя 500 дзяцей з аслабленым зрокам была ўведзена пасада медсястры, якая праводзіла трэніровачнае лячэнне. Вынікі былі цудоўныя: практычна ва ўсіх дзяцей зрок палепшыўся! У многіх ён стаў абсалютна нармальным.

**— Цікава, якія яшчэ паталогіі, акрамя блізарукасці, прыводзяць да інваліднасці?**

— Гэта — глаўкома, катаракта. Але найбольш небяспечныя траўмы вока. Вельмі непрадказальныя і рэдкія захворванні, калі не толькі пакутуюць многія органы і сістэмы, а і катастрафічна падае зрок.

**— Якія найбольш яркія прыклады з практыкі вам згадваюцца?**

— Вельмі рэдкае захворванне апісаў вядомы ізраільскі вучоны, педыятр Бойхіс, калі ў чалавека не толькі катастрафічна падаў зрок, але і пакутавалі іншыя органы і сістэмы. Ён сцвярджаў, што такое захворванне невылечнае. Мы даказалі, што гэта не так. Наш пацыент — цыганскі хлопчык, які ў свой час трапіў да нас з такім дыягназам, цяпер абсалютна здаровы хлопец. Ведаў бы пра гэта Бойхіс, вачам сваім не паверыў бы.

Памятаю дзяўчынку, якая трапіла да нас з сіндромам Сабура (гэта двухбаковая катаракта, калі да ўсяго выпадаюць валасы і рагавее скура). Цяпер яна — здаровая. Выйшла замуж. І такіх прыкладаў — тысячы!..

**— Як вядома, вы першы ў Беларусі ўрач-афтальмолаг, які выканаў аперацыю па замене хрусталіка. Вядомыя "насечкі Фёдарава" — таксама ваша прэрагатыва. Да таго ж, шлях да ўсіх гэтых перамог быў нялёгкім. Як вы змагаліся з жыццёвымі перашкодамі?**

— Безумоўна, цяжкасцей хапіла, але пасля канцлагера "Азарычы" я гляджу на свет інакш. Інакш адчуваю жыццё. Над намі, дзецьмі, фашысты праводзілі страшныя эксперыменты. Яны бралі кроў і заражалі сыпным тыфам. Сястра памерла ў мяне на руках... Я цудам уцалеў — відаць, таму, што быў у "кантрольнай" групе, якая патрэбна была палачам для параўнання вынікаў...

Але ж усё благое забывалася, калі я бачыў шчаслівыя вочы маленькіх пацыентаў. Гэтым я лячыў сваю горкую памяць пра замучаных равеснікаў, у якіх фашысты забралі жыцці і "дзіўны дар прыроды вечнай", якому я прысвяціў сябе і ніколі не шкадую аб гэтым.

Гутарыла **Святлана ХОРСУН.**
Фота **Яўгена КАЗЮЛІ.**

## СПОРТ

**БІЯТЛОН.** На трэцім этапе Кубка свету па біятлону лепшыя з беларускіх мужчын В. Сашурын і А. Рыжанкоў занялі 11-е і 13-е месцы, хаця Сашурын мог пазмагацца за п'едэстал, калі б не дапусціў двух промахаў на заключным рубяжы індывідуальнай гонкі на 20 кіламетраў.

А вось жанчыны прыемна здзівілі. У індывідуальнай гонцы на 15 кіламетраў Святлана Парамыгіна стала шостай, Людміла Лысенка — 11-й, а Вольга Назарава — 14-й.

**ГІМНАСТЫКА.** У Глазга прайшоў фінал Кубка свету па гімнастыцы. У сталіцы Шатландыі ўзнагароды разыгрываліся толькі ў асобных відах, затое адначасова і ў спартыўнай, і ў мастацкай гімнастыцы. Беларус Іван Іванкоў заняў другое месца на кані, трэцяе — на кольцах і перакладзіне, шостае — на брусах. А ў мастацкай гімнастыцы наша Юля Раскіна ў практыкаваннях з абручом, мячом і стужкаю была трэцяй. Беларуска Ала Цупер, якая выйграла папярэдні этап Кубка свету, зноў стала першай.

**Міхаіл МАЗАКОЎ.**

# АЛЕ З ПАШАНАЙ

ж казаць пра найбольш папулярны спектакль апошніх гадоў, то першынство, бадай, тут за "Вітаўтам" Аляксея Дударава. Не знікае з рэпертуару і вельмі цікава пастаўленая Міколам Пінігіным "Ідылія" па п'есе Дуніна-Марцінкевіча.

Сказаным зусім не хачу перакрэсліць патрэбу ў нацыянальным тэатры перакладных п'ес. Без іх, каб і хацеў, не абыдзешся. Афарыстычна можна ўспрымаць словы прысутнага на вечарыне рэжысёра Барыса Эрына, які надзвычай шмат уклаў у развіццё купалаўскага тэатра, але па нейкіх прычынах з'ехаў у Расію. "Тэатр, — сказаў ён, — сёння трымаецца на двух Д — Дзюрэнмаце ("Ромул вялікі". — **Я. Л.**) і Дудараве". Апошні, дарэчы, мог бы быць у купалаўцаў сёння прадстаўлены і шырэй — ягоны "Вітаўт" найперш прываблівае ідэяй нацыянальнага самасцвярджэння, абуджэння ў людзей цікавасці да свайго мінулага, тады, скажам, як пастаўлены на Вольнай сцэне "Прынц Мамабук" — гэта іскрыстая фантазія, творчы пошук тых новых магчымасцей для беларускай драматургіі, якія ў юнацкай прозе ў свой час асвойваў класік беларускай дзіцячай літаратуры Янка Маўр.

Пошуку, эксперыменту якраз сёння і бракуе вялікай сцэне купалаўскага тэатра. Але на тое, мабыць, і існуе малая сцэна. Мне, напрыклад, вельмі даспадобы з убачанага апошнім часам пастаўлены тут маладым рэжысёрам (ён жа і акцёр) Віктарам Гарцуевым спектакль па п'есе Сяргея Кавалёва "Трыштан і Ізольда", напісанай па матывах сярэдневяковага рыцарскага рамана. А як тут не згадаць "Гаральда і Мод", якую некалькі гадоў запар вялі да гледача ў непараўнальным акцёрскім дуэце Стафанія Станюта і Віктар Манаеў.

У нас звычайна юбілеі акадэмічных калектываў, як і акадэмікаў, святкуюцца ўрачыста і... досыць сумна. Калектыў тэатра імя Янкі Купалы быццам знарок зрабіў выклік такой традыцыі, увасобіўшы дзень народзінаў у своеасаблівы іскрыста-вясёлы спектакль, дзе было шмат гумару, іроніі і самаіроніі. Да гонару афіцыйных асоб — віцэ-прэм'ера Міхаіла Дземчука і намесніка міністра культуры Ю. Цвяткова, яны таксама арганічна ўпісаліся са сваімі выступленнямі ў "новы стыль", рэй у якім, зразумела, побач з вядомымі акцёрамі вяла моладзь, учарашнія выпускнікі Беларускай тэатральна-мастацкай акадэміі. Будзем спадзявацца, што менавіта яны ў добрай згодзе з папярэднікамі адновяць колішнюю славу лепшага нацыянальнага тэатра Беларусі.

**Яўген ЛЕЦКА.**
Фота **БелТА.**

## ДЫПКУР'ЕР

### О ПОРЯДКЕ ВЪЕЗДА, ВЫЕЗДА И СЛЕДОВАНИЯ ТРАНЗИТОМ ЧЕРЕЗ ТЕРРИТОРИЮ СЛОВАЦКОЙ РЕСПУБЛИКИ ПОСЛЕ 1 ЯНВАРЯ 2001 ГОДА

Граждане Республики Беларусь, имеющие действительный дорожный документ (паспорт), с 01.01.2001 года могут въехать на территорию Словацкой Республики и находиться там только при наличии действительного дорожного документа (паспорта) и словацкой визы.

Граждане Республики Беларусь, въехавшие на территорию Словацкой Республики в период действия Соглашения о безвизовых поездках граждан (т. е. до 01.01.2001 г.), смогут покинуть территорию Словацкой Республики без виз, если срок их пребывания на территории Словацкой Республики не превысит 30 дней. В случае, если возникнет необходимость остаться на территории Словацкой Республики на время большее, чем указано выше (т. е. после 31 января 2001 года), граждане Республики Беларусь должны подать заявление для открытия визы в компетентные органы Словацкой Республики.

Граждане Республики Беларусь, имеющие разрешение на долговременное пребывание в Словацкой Республике или постоянно проживающие в Словацкой Республике и до 1 января 2001 года на короткий период выехавшие за границу, смогут вернуться на территорию Словацкой Республики на основании действительного дорожного документа (паспорта), в котором имеются отметки о разрешении на пребывание в Словацкой Республике (печать или виза).

Граждане Республики Беларусь, возвращающиеся в период с 01.01.2001 года до 31.01.2001 года из третьих государств в Республику Беларусь транзитом через территорию Словацкой Республики, должны иметь транзитную визу. Получить словацкую транзитную визу на пограничных переходах можно будет только в исключительных случаях (внешнеполитический интерес) на следующих погранпереходах:

— государственная граница Словацкой Республики с Австрией — погранпереходы "Петржалка" ("Petrzalka") и "Яровце" ("Jarovce");

— государственная граница Словацкой Республики с Польшей — погранпереходы "Вышны Комарник" ("Vysny Komarnik") и "Трстена" ("Trstena").

Граждане Республики Беларусь, имеющие дипломатические и служебные паспорта, с 01.01.2001 года могут въезжать на территорию Словацкой Республики только по визам (до подписания соглашения об отмене визового режима для владельцев дипломатических и служебных паспортов).

### АБ ТАРЫФАХ КОНСУЛЬСКІХ ЗБОРАЎ ЗА ВЫДАЧУ ВІЗ ГРАМАДЗЯНАМ БЕЛАРУСІ І ЧЭХІІ

З 15 снежня 2000 года ўведзены ў дзеянне тарыфы консульскіх збораў за выдачу віз грамадзянам Рэспублікі Беларусь і Чэшскай Рэспублікі замежнымі ўстановамі дзвюх краін, якія былі ўстаноўлены на прынцыпах узаемнасці.

Напрыклад, за выдачу аднаразовых дзелавых, гасцявых, турыстычных і транзітных віз устаноўлены тарыф у памеры 10 долараў ЗША, за выдачу шматразовых дзелавых, гасцявых і транзітных віз тэрмінам дзеяння да 180 дзён — 45 долараў ЗША, за выдачу віз з правам работы па найму — 50 долараў ЗША.

Узгодненыя тарыфы консульскіх збораў будуць прымяняцца замежнымі ўстановамі дзвюх дзяржаў ва ўсіх краінах свету, дзе ёсць дыпламатычныя і консульскія прадстаўніцтвы Рэспублікі Беларусь і Чэшскай Рэспублікі.

### О ДОКУМЕНТАХ, ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫХ ДЛЯ ПОЕЗДОК ГРАЖДАН РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ В УКРАИНУ

В связи с появившимися, в том числе и в средствах массовой информации, сообщениями о возможном введении с 1 января 2001 года визового режима между Республикой Беларусь и Украиной Министерство иностранных дел Республики Беларусь сообщает:

В настоящее время ведется согласование перечня документов, по которым граждане Беларуси и Украины могут пересекать белорусско-украинскую границу. Предполагается, что в перечень документов, действительных для въезда граждан Республики Беларусь на территорию Украины, войдут: паспорт гражданина Республики Беларусь с разрешительной записью на выезд во все страны мира, общегражданский заграничный паспорт СССР с отметкой о принадлежности к гражданству Республики Беларусь и разрешительной записью на выезд во все страны мира.

Внутренние советские паспорта образца 1974 года с отметкой о принадлежности к гражданству Республики Беларусь, по которым в настоящее время также осуществляются поездки граждан в Украину, со второго полугодия 2001 года не будут действительны для пересечения белорусско-украинской границы.

Предполагается, что, начиная с 1 мая 2001 года, несовершеннолетние граждане Республики Беларусь также смогут выезжать в Украину только по паспортам гражданина Республики Беларусь с разрешительной записью на выезд во все страны мира и общегражданским заграничным паспортом СССР с отметкой о принадлежности к гражданству Республики Беларусь и разрешительной записью на выезд во все страны мира.

Министерство иностранных дел Республики Беларусь обращает внимание, что поездки граждан Беларуси на территорию Украины производятся и будут производиться в дальнейшем без виз. Введение визового режима между Республикой Беларусь и Украиной не планируется.

### О ПРИСОЕДИНЕНИИ ШВЕЦИИ К ШЕНГЕНСКОМУ СОГЛАШЕНИЮ

Министерство иностранных дел Королевства Швеция распространило пресс-релиз о снятии пограничного контроля со странами — участницами Шенгенского соглашения с 25 марта 2001 года в связи с присоединением Швеции к Шенгенскому соглашению. Для иностранных граждан, имеющих разрешение на жительство в Швеции, вводится безвизовый режим с упомянутыми странами. Сотрудничество в области обмена компьютерной информацией со странами Шенгена начнется уже в конце 2000 года.

*СПРАВКА О ШЕНГЕНСКОМ СОГЛАШЕНИИ. Шенгенское соглашение для Бельгии, Нидерландов, Люксембурга, Франции, Испании, Португалии и Германии вступило в силу 26.03.1995 года. С этого момента на внутренних границах этих государств был отменен пограничный контроль.*

*Со вступлением в силу Шенгенского соглашения для туристических и деловых поездок, а также для транзитного проезда в государства, не являющиеся членами Шенгенского соглашения, выдаются единые визы, действительные для всех государств — членов Соглашения. Максимальная длительность пребывания составляет 90 дней в течение полугодия.*

*В течение последующих нескольких лет к Шенгенскому соглашению присоединились Австрия, Греция и Италия.*

*Таким образом, на сегодняшний день участниками Шенгенского соглашения являются 10 стран. В рамках указанного соглашения Посольству Германии в Минске делегировано право представлять интересы Нидерландов, Бельгии, Люксембурга и Австрии при оформлении виз в гостевую либо деловую поездку сроком пребывания до 90 дней.*

*Посольству Франции аналогичное право предоставлено в отношении Португалии и Испании (за исключением выдачи виз для детей, следующих на оздоровление).*

*Визы для поездки в Италию оформляются в Посольстве Италии в Минске, для поездки в Грецию оформляются в Посольстве Греции в Москве.*

**Пресс-служба МИД.**





РУСІ

майстрам (у
"Спадчына")
ставы, право-
ыя святы "Ка-
е", "Гуканне
ае дабрачын-

нду, пабачы-
Ф. Скарыны,
курсы на леп-
Полацкаму, К.
К. Тураўска-
, В. Вашчылу.

ДЗІНЫМ...

з роднай
справа выса-
на галодны

ля Дома пры-

аўспрыманне
яецца. Таму
крыху і пад-
дзінае, што
ю: нішто так
етыт, як злу-
ыродай — у
сэнсе гэтага

вам проста
сці ў "Дом
інуўшы там
рублёў за
за цячы
веце спраў-
самі, так і ва-
ашчадкі. Калі
це на выста-
о Мінскім за-
не зусім! —
дзеце мець
чыць кампа-
ак — выставу

лі сярод жы-
кінуцца ў во-
— лепей да іх
: можа так
асля знаём-
о не захочац-
одзіць сваю
ах, мангустах
шнімі можна
ейкі кантакт,
вам тое ўдас-
рабую даць
у: на ўвахо-
оды накіруй-
малпамі —
ы.
выставу сухіх
ады, што яны
к вашая жон-
ачне капрыз-
побач з До-
ецца магазін
тчэй бяжыце
кы, а лепей
еткі загадка-
йным пахам.
ваша жанчы-
едам страву



*Траецкае прадмесце.*

экзатычную і паступова прыйдзе "ў норму", што і забяспечыць абодвум рамантычны жаданы вечар...

Паабедаць, зразумела, лепш у рэстаране, тым больш, што іх тут зашмат. Але не палохайцеся, калі ў холе рэстарана "Траецкае прадмесце" вы ўбачыце прыгожую шыльду: "Рэстаран "Кітайскі жэмчуг". Беларуская харчэўня на другім паверсе, ды можна пасядзець і ў "кітайцаў". Цэны і там, і тут амаль аднолькавыя. Усходні абед на аднаго чалавека каштуе 12—15 тысяч рублёў, а беларускі — да 15,5... Кітайская кухня прапаноўвае такія стравы, як "чау ююй" (кальмар, смажаны ў фрыцюры), "юйсян жоўсь" (свініна па рыбнаму рэцэпту), "танцу юй" (карп у кісла-салодкім соусе). Аднак рысавай гарэлкі вы тут не закажаце: яе вельмі дарага завозіць, так што прыйдзецца даволіцца французскім віном, джынам, тэкілай, замежным бутэлечным півам.

Падобныя напоі вы зможаце знайсці і ў беларускім рэстаране "Траецкае прадмесце", але закусваць ужо будзеце стравамі нашымі, роднымі: "свінінай, запечанай з грыбамі", "мачанкай беларускай з блінамі", "паджаркай беларускай з дранікамі". Так што, смачна есці!

### СПАКУСЫ ЦІКАЎНАСЦІ

І вось вы зноў на свежым паветры. Ногі ўжо ідуць не так шпарка, паходка стала больш павольнай — вы наеліся, і вас цягне яшчэ што-нішто паглядзець, але менш сур'ёзнае, чымсьці экспанаты, звязаныя з беларускай гісторыяй.

Што ж! Можна зайсці ў кніжную лаўку "Вянок" альбо ў "Ламбардъ". Абедзве ўстановы прадаюць антыкварыят. У першай вы зможаце набыць "Сцэны і камедыі" (сёмы том) Тургенева 1869 года выдання за пяць тысяч рублёў, пяцітомнік Гогаля (1889 года) за




*Кафэ, крамы, антыкварныя лаўкі на кожным кроку ў Траецкім прадмесці.*

45 тысяч альбо трэці том Байрана (1884 года) за... 1 500 беларускіх рублёў.

У "Ламбардзе" цэны значна вышэйшыя: шахматы са слановай косці (канец XIX стагоддзя) — 800 долараў ЗША, срэбныя смятанніца і кафейніца з рэйхканцылярыі Гітлера — 1 000 з хвосцікам, залаты гадзіннік — больш за 2 000 долараў, кітайскі тазік — 7 000 долараў.

Цэны, зразумела ж, не для сённяшняга айчыннага пакупніка, але ж народу таўчэцца нямала, спакушае цікаўнасць.

### КОЛА НАДЗЕІ

На выхадзе ж з прадмесця трэба наведаць яшчэ адно месца. Гэта помнік, на якім чытаем: "Сынам, загінуўшым у Афганістане, узведзены Храм-помнік па даручэнні беларускіх маці, якія не жадаюць, каб зло панавала ні на сваёй, ні на чужой зямлі". Помнік месціцца на востраве, які злучаецца з горадам мастом. Адразу на ўваходзе, справа, убачыце нешта накшталт бункера. Гэта міліцэйскі пост, сапраўдны Пост № 1. З чатырох бакоў Храма да вас (і свету) працягваюць свае спакутаваныя рукі восем жанчын, кожная з якіх трымае пацір, поўны слёз. Далей, бліжэй да вады, — камяні з надпісамі афганскіх гарадоў: Джэлалабад, Баграм, Гардэз... Паміж Шындандам жа і Кабулам, бы сцяжынка ў Вечнасць, — лесвіца да заўсёды спакойнай гладзі Свіслачы... Таму і атрымаў гэты кавалачак беларускай зямлі свяшчэнную назву — "Востраў Слёз".

Здаецца, наша падарожжа і завершана. Але калі вы трапілі ў Траецкае ў пятніцу ці суботу, то пабачыце тут шчаслівых маладых людзей, якія бяруць шлюб у самым папулярным у Мінску ЗАГСе. Гледзячы на іх, адчуеце, як расцвітуць надзеі нават у студзеньскія маразы...

Вось такі атрымаўся шлях з мінулага ў будучыню праз Траецкае прадмесце.

Падарожнічалі
**Алесь МЯСНІКОЎ** і
**Яўген КАЗЮЛЯ** (фота).



*Утульны дворык у Траецкім прадмесці.*



*Помнік ахвярам вайны ў Афганістане.*

ПРЭМІІ

## ЧАЦВЁРТЫ ГОД У СНЕЖНІ "ФІЛІП МОРЫС МЕНЕДЖМЕНТ СЕРВІСЕЗ Б. В." УРУЧАЕ ПРЭМІЮ ЛЕПШАМУ ТАНЦОРУ БЕЛАРУСКАГА БАЛЕТА

Першы спецыяльны балетны прыз за работу ў 1997-м годзе атрымала Кацярына Фадзеева. У 1998-м годзе — Руслан Мінін. У 1999-м — Аляксей Турко. Прэмія "Філіп Морыс-Дэбют" за лепшае выступленне ў балетным спектаклі стала самай прэстыжнай узнагародай для артыстаў беларускага балета. Лаўрэат атрымлівае не толькі прыгожую статуэтку, але і 5 тысяч долараў. Іншай штогадовай прэміі такой вартасці ў Беларусі проста няма.

Сёлета прэтэндэнтамі на прэмію былі каля дваццаці маладых салістаў, але лепшым прызнаны Ігар **Сядзько**. У трупе тэатра ён з 1995 года. Выпускнік Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа. Выканаў вядучыя і сольныя партыі: Прынца Лімона ("Чыпаліна"), Піка ("Сон у летнюю ноч"), хлопца ("Пацалунак феі"), Бурбанто ("Карсар"), Родбарта і Блазна ("Лебядзінае возера"), Пятра ("Прывал кавалерыі"). Гастраліраваў з трупай тэатра ў Францыі, Аўстрыі, Германіі, Швейцарыі, Польшчы, Галандыі, Японіі...

За апошні сезон выканаў дэбютныя вядучыя партыі ў балетах "Спартак" (Крас), "Стварэнне свету" (Бог), "Карміна Бурана" (Абат), "Жар-птушка" (Кашчэй), "Шчаўкунчык" (Дросельмеер), "Эсмеральда" (П'ер Грэгуар). Марыць станцаваць вядомае "Балеро" Равеля і партыю Прынца ў балеце "Спячая прыгажуня".

**В. Я.**

КОНКУРСЫ



## У ЛОНДАНЕ ПЕРАМОГУ АТРЫМАЛА ІНДЫЯНКА, АЛЕ...

Святлане Крук у гэтым годзе карону "Міс Свету-2000" прымераць не прыйшлося. Але прыемна, што Беларусь упершыню была прадстаўлена на такім грандыёзным сусветным шоу. І ні кім-небудзь, а амаль дыпламаваным матэматыкам, студэнткай універсітэта.

Як стала вядома, "Міс Свету" — індыянка. Ці не азначае гэта, што славянкі зараз не ў модзе? Расіянцы ж Ганне Бондаравай і ўкраінцы Алене Шчэрбань карона таксама не дасталася.

— Славянкі былі, ёсць і будуць самымі прыгожымі жанчынамі. У іх жа яшчэ і загадкавая душа, — лічыць Святлана. — А наогул, беларускія жанчыны павінны больш нараджаць, будзе і большы выбар прыгожых дзяўчат.

**"КП".**

ДЭБЮТ

## АПЛАДЗІРУЕ ПАРТУГАЛІЯ

**Дыпламантам XVII Міжнароднага конкурсу піяністаў у Порту (Партугалія), які ўваходзіць у Жэнеўскую федэрацыю фартэпіянных конкурсаў, стаў малады беларускі піяніст Сяргей Смірноў.**

**Мне ўдалося сустрэцца і пагутарыць з пераможцам.**

— *Сяргей, якія былі ўмовы конкурсу?*

— У ім маглі прымаць удзел піяністы ад 18 да 32 гадоў, якія маюць конкурсныя ўзнагароды. Пры гэтым колькасць удзельнікаў была строга абмежавана (каля 90 чалавек з усяго свету). Ды і сам конкурс фактычна складаўся з 4 тураў, бо 3-ці тур уключаў сольную праграму і канцэрт для фартэпіяна з аркестрам.

— *Хто ўваходзіў у склад журы?*

— Яго старшынёй была сама прэзідэнт і арганізатар конкурсу Марыя Фернанда Вандшнайдэр, а сярод сямі членаў журы — прадстаўнікі Італіі, Уругвая, Чэхіі, Францыі, Японіі, Партугаліі. Член журы з Расіі — музыкант Андрэй Дзіеў, вучань Льва



Навумава, дарэчы, родам з Беларусі.

— *Якую праграму вы выконвалі?*

— Яна была вельмі аб'ёмнай і складанай. Гэта творы Баха, Моцарта, Шапэна, Ліста, Дэбюсі, Рахманінава, Пракоф'ева, а з беларускіх было прадстаўлена "Адажыо" з балета "Маленькі прынц" Глебава-Алоўнікава.

— *Што дае перамога на гэтым конкурсе?*

— Я спадзяюся, яна дапаможа мне прыняць удзел у іншых прэстыжных спаборніцтвах. Гэта як адкрыты вялікі шлях, па якім я толькі пачынаю ісці.

Гутарыла
**Наталля ГАНУЛ.**

**ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

## СЯБРАМ У АМЕРЫЦЫ

Шчырае прывітанне родным людзям у Амерыцы. У гэтым годзе нас на фестываль-2000 запрасіў Беларуска-амерыканскі грамадскі цэнтр Саўт-Рывера, што ў штаце Нью-Джэрсі.

Уражанняў шмат. Мы наведалі царкву Святой Ефрасінні Полацкай, царкву Святой Жыровіцкай Божай Маці, сядзібы нашых землякоў.

Усюды адчувалі дабрыню і зацікаўленасць у нашым знаходжанні ў Амерыцы.

Сардэчнае дзякуй усім сябрам. Хай Бог дае вам, вашым родным і блізкім моцнага здароўя і шчасця.

З Новым годам! З Калядамі!

З Бацькаўшчыны фалькорны гурт:
**Мікола КОТАЎ, Антон ВАРАБ'ЁЎ, Саша ДРОНІЧ.**

г. Мінск.

## НЕ СОН У МАЙСКУЮ НОЧ



*Чалавек пасля сябе павінен пакінуць "след": пабудаваць дом, пасадзіць дрэва, нарадзіць дзіця... (З народнай мудрасці).*

**Так сталася, што з жонкаю мне не ўдалося выканаць гэтыя мудрасці Усходу: дом мелі, дрэвы садзіць даводзілася, а вось нашчадкаў не займелі, таму што жонка хварэла і ў жніўні 1990 года адышла на той свет, а я застаўся адзін. А нашчадкаў (аж 9) займеў мой старэйшы брат Мікола, і прозвішча Капчык не знікне, будзе і далей жыць...**

**...Але ж і я быў "грэшным", калі меў знаёмства з адной прыгожай кабетаю на Хмельніччыне. Чым закончыўся гэты "флірт", не ведаў на працягу 20 (!) гадоў. І вось у маі гэтага года атрымліваю ліст ад хлопца, які даслужваў апошнія дні ў войску, што ён "мае гонар паведаміць далёкую тайну яго нараджэння, пра якую распавядала маці..."**

**Што тварылася ў маёй душы — цяжка перадаць на словах... Хацелася спяваць, крычаць, што ў мяне ёсць сын, імя якому Раман.**

**...Першая сустрэча была напружаная, мы, як дзве "малпы" — і я, і Рома нарадзіліся ў гады малпаў, — прыглядаліся адзін да аднаго. Але гэны ўзялі верх над нейкімі недаверамі, і мы жывём разам: бацька і сын!**

**Думаю, што мае сябры і знаёмыя ў Эстоніі і ЗША, Аўстраліі і Літве, Латвіі і Чэхіі, Францыі і Уругваі, Англіі і Расіі, Украіне і Беларусі парадуюцца разам са мною. Беларуская дыяспара папоўнілася яшчэ адным шчырым беларусам.**

**Гэта вам, браткі мае, толькі ў класіка быў сон у летнюю ноч. У мяне ж з'явіўся промень жыцця — сын, імя якому Раман. Думаю, што не толькі ў мяне аднаго адбылася ў жыцці незвычайная гісторыя. Можа хто яшчэ захоча расказаць пра якія-небудзь здарэнні!**

**Пятрусь КАПЧЫК.**

Украіна, Ізяслаў.

**НА ЗДЫМКУ: сын П. Капчыка — Раман.**

**P. S. Ад усяго сэрца віншуем журналістаў ды чытачоў тыднёвіка ў Беларусі і замежжы з Калядамі і Новым, 2001 годам!**

**Няхай добра творыцца, шчасціцца, вякуецца ў новым стагоддзі і тысячагоддзі.**

**Жыве вольная ды незалежная сёння і на ўсе вякі Беларусь!**

**Пятрусь КАПЧЫК з сынам Раманам.**

**АЎСТРАЛІЯ**

*Шчыра дзякую за дасылаемую газету "Голас Радзімы" на Беларускі цэнтральны камітэт. З яе даведваемся аб жыцці нашых суродзічаў на роднай Беларусі.*

*Віншуем усіх супрацоўнікаў паважанай газеты з надыходзячымі Калядамі і Новым, 2001 годам! Жадаем плёну ў працы і асабістым жыцці.*

**P. S.** *Прапаную хроніку беларускага жыцця нашай арганізацыі ў Мельбурне. Жыве Беларусь!*

**Паўлюк ГУЗ.**

## ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЦЯ

У лістападаўскія дні напрыканцы тысячагоддзя ў беларускай грамадзе адбыліся цікавыя падзеі.

7 лістапада прыход БАПцарквы Святых Віленскіх Мучанікаў і Беларускі цэнтральны камітэт ды пенсіянерскі клуб ладзілі вандроўку ў гістарычную аўстралійскую мясцовасць Даласфорд, дзе некалі ў пошуках золата пабывалі да 30 000 чалавек: усе хацелі быць шчасліўцамі. Ды і сёння гэтая цікавая мясцовасць прыцягвае як турыстаў з цэлага свету, так і тутэйшых людзей.

Сябра беларускай грамады Мельбурна Ф. Корбут прапанаваў размясціцца на сваёй ферме, што было скарыстана. Ферма знаходзіцца сярод лесу, побач — мінеральная вада, азярцо і ўсё, што патрэбна для пікніка. А да таго ж было цудоўнае надвор'е, якое супала з вялікім аўстралійскім святам. Гэта ўсё зацікавіла многіх людзей. Святкаванне доўжылася да позняга вечара: смажылі каўбасы, шашлык, мяса па-беларуску, спявалі песні, успомнілі розныя гульні, а самае галоўнае, што кожны "бачыў" сваё дзяцінства на роднай Беларусі, яе краявіды, што засталіся ў памяці.

19-га лістапада БАПЦ распачала святкаваць угодкі сваёй царквы Святых Віленскіх Мучанікаў. Яе настаяцель а. А. Кулакоўскі адслужыў малебен-падзяку Богу за яго дабрату, што пасля 20-ці год служэння ў чужой царкве мы ўжо 19 год маем сваю, хоць давялося багата ўсяго перажыць за гэты час. Далей мастацкую частку вёў спадар В. Русак. Ён зазначыў, што нашы маладыя дзяўчаты, згуртаваныя ў хоры "Каліна", выканаюць песні "Ой, чый той конь стаіць", "Дзед і баба", "А мой бацька добры быў" і іншыя. Спадар В. Русак падзякаваў таксама за смачны абед жанчынам Тамары Субач і Аляксандры Русак і ўсім жанкам, якія належаць да сястрынства.

26 лістапада Беларускі цэнтральны камітэт супольна з БАПцарквой Святых Віленскіх Мучанікаў ладзілі 80-я ўгодкі слуцкачоў. Святую літургію адслужыў настаяцель Аляксандр Кулакоўскі, а пасля яе адбыўся малебен за беларускі народ.

Напрыканцы былі зачытаны дасланыя прывітанні на гэты дзень, а менавіта з Канады ад спадарыні Р. Жук-Грышкевіч, ад беларускага аб'яднання ў Паўднёвай Аўстраліі, ад Гістарычнага беларускага згуртавання ў Аўстраліі (спадара Віктара Кавалеўскага). Таксама зачытаны заклік з газеты "Ніва" (Беласток) за 20.08.2000 № 34 аб манаполіі на праваслаўе...

Пасля людзі яшчэ доўга гутарылі ды ўспаміналі пра перажытае.

**Паўлюк ДУБРОЎСКІ-ГУЗ.**




***Сёння, напярэдадні Новага года, прапануем чытачам пазнаёміцца з малавядомай традыцыяй навагодніх віншаванняў паміж фотамастакамі свету.***

**ПОЛЬШЧА**

***Шаноўны рэдактар!***

***Некалькі дзён назад мне патэлефанаваў з Беластока Міхась Хмялеўскі, той шчыры беларус, нататка пра юбілей якога нядаўна была змешчана ў "Голасе Радзімы". М. Хмялеўскі выказаў рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" шчырую падзяку за асвятленне жыцця беларусаў Польшчы, што з'яўляецца для іх маральнай падтрымкай і радасцю. А яшчэ Міхась прасіў перадаць журналістам "Голасу Радзімы" шчырыя навагоднія і калядныя віншаванні ды пажаданні найлепшых поспехаў усім людзям мілай Беларусі.***

*З прыемнасцю, вядома, выконваю просьбу свайго беластоцкага сябра.*

**А. ЖАЛКОЎСКІ.**

г. Ліда.

***P. S.*** *Дасылаю матэрыял пра фестываль "Беласток — Гродна". Усяго найлепшага!*

## ДЛЯ БЛІЗКІХ ЛЮДЗЕЙ НЕ ІСНУЕ МЯЖЫ

Той дзень у лідчан Полехаў праходзіў спакойна і размеркавана. Так, як і павінна быць у пенсіянераў. Ды раптам у іх кватэру завіталі нечаканa турботы і хваляванне. Любоў Іванаўна, гаспадыня, пачала тэрмінова збірацца ў абласны цэнтр, на міжнародны фестываль "Артыстычныя сустрэчы Беласток — Гродна". Не, не на выступленне на папулярным аглядзе. Жанчыну радавала думка, што заўтра яна сустрэнецца са сваёй любай пані Антанінай, адной з удзельніц той уражлівай імпрэзы.

Загадзя прыехала Л. Полех у Гродна і паспяшалася да драмтэатра. Тут дачакалася аўтобуса з Беластока і сустрэла польскую сяброўку. Шчырыя абдымкі-пацалункі, роспыты пра мужоў Тадэвуша і Мікалая. І пачастунак з беластоцкіх і лідскіх прысмакаў.

Затым быў цудоўны фестывальны канцэрт. Са сцэны несліся звонкія галасы беларусаў і палякаў. Усіх зачароўвалі танцы народаў-братоў. Антаніна коратка характарызавала беластоцкія калектывы. Любоў Іванаўна, у сваю чаргу, адчувала сябе імянінніцай, калі выступалі лідскі ансамбль ці "Радунскія салавейкі" ды гурт "Заранак" з недалёкага ад Ліды мястэчка Радунь. Наступаў перапынак — і кабеты зноў аддаваліся ўспамінам.

Колькі слоў пра мілых асоб нашага аповеду. Не падумайце, што Любоў і Антаніна — сяброўкі юнацкай пары ці радня. Іх незвычайная дружба завязалася каля дзесяці гадоў таму назад выпадкова. Разам з іншымі лідчанамі-"чаўнакамі" ехала Любоў Іванаўна ў невядомы Беласток. І ў час мытнага перагрусу нявопытная ў такіх сітуацыях жанчына адстала ад землякоў і не паспела на патрэбны поезд. Ды неўзабаве села на экспрэс Пецярбург — Варшава. Уладкавалася неяк у купэ, а сама ад роспачы свету Божага не бачыла. Куды пахіліцца ў незнаёмым горадзе, што рабіць? Ход змрочных думак далікатна перапыніла пасажырка, якая стаяла побач. І, пачуўшы сумнае апавяданне лідчанкі, супакоіла: "Чаго бедаваць, колькі спатрэбіцца, пабудзеце ў мяне. Ёсць, дзе адпачыць, ёсць, чым пачаставаць..." Так адбылося знаёмства.

Антаніна Байблей і яе муж Тадэвуш Бурнос сардэчна апякалі госцю, пасябравалі з ёю з першага дня. Любоў Іванаўна цешылася з сям'і, пра якую, змяніўшы трохі словы вядомай песні, можна сказаць: "Яна беларуска, а ён — католік". І з той пары героі гэтага аповеду падтрымліваюць дружалюбныя стасункі. Беластоцкая пара не раз прыязджала ў Ліду. Антаніна, нібы блізкая сваячка, прысутнічала ў Полехаў на вяселлі абодвух сыноў. Любоў Іванаўна замацавала сваё знаёмства з Беластокам, наведваючыся ў госці да Тоні і Тадэвуша. І вось другі раз сяброўкі сустрэліся ў Гродне на міжнародным фестывалі. І зноў, як два гады назад, натхнёна апладзіравалі польскім і беларускім артыстам, радаваліся развіццю добрых адносін паміж нашымі краінамі.

Ужо колькі гадоў ведаю я пра незвычайную дружбу дзвюх сем'яў з Польшчы і Беларусі і радуюся іх мілым стасункам, якіх, на жаль, часам няма і паміж блізкімі родзічамі.

Пасля вяртання Л. Полех з Гродна я з ёю меў сустрэчу. Любоў Іванаўна перадала мне прывітанне і кнігу ад беластоцкага журналіста Міхася Хмялеўскага, які таксама быў на фестывалі, эмацыянальна расказала пра пачутае там і ўбачанае. А я пераказаў вам.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

● **Алесь МЯСНІКОЎ.**

Нехта з вялікіх заўважыў: "Блажен, кто посетил сей мир в его минуты роковые...". Францішак Багушэвіч, невядомыя аўтары "Энеіды навыварат" і "Тараса на Парнасе" раталі нашую мову ў XIX стагоддзі, Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас — у XX. Напрыканцы ж адыходзячага веку гэтая місія выпала і на долю Анатоля Сыса: "Кайся, кайся за свой жывот, Не забудзься і пра Купалаў, Бо цяпер ты адзін, народ, Быццам Храм на шляху вандалаў!.."

Дзе б паэт ні чытаў свае творы, музыка ягоных радкоў заварожвала слухачоў.

Ды навалілася выпрабаванні. Быццам гэта ў малітве "Ойча наш" сапраўды пра паэта-беларуса: "І не ўводзь нас у спакусу, але барані нас ад нячыстага..." Ды нешта не атрымліваецца берагчыся, не тое ўсё з намі нешта робіцца...

На вялікі, нясцерпны жаль, Сыс "зламаўся". Толькі ці маем мы права судзіць яго? Суддзя Паэту — толькі Бог. Простым жа смяротным, нам з вамі, застаецца толькі меркаваць, што робіцца ў паэтавай, хворай на Айчыну, ду-



# PRO FELICITATE

Зараз цяжка сказаць, хто быў аўтарам гэтай ідэі, але ўжо некалькі дзесяцігоддзяў кожны фатограф, які паважае сябе, адкладвае ўсе справы, зачыняецца ў фоталабараторыі і робіць сваю фотапаштоўку, каб павіншаваць калег і сяброў з Новым годам.

Чым кіруюцца фотамастакі, ствараючы фотавіншаванне? У першую чаргу, непаўторнасцю сваёй паштоўкі. А што датычыцца самой вывы, то тут абсалютная свабода творчасці. Некаторыя асновай паштоўкі робяць адзін са сваіх найбольш удалых твораў мінулага года, другія звяртаюцца да фотамантажу, трэція выкарыстоўваюць аўтапартрэт. Вельмі цэняцца сярод фотамастакоў гумар і незвычайнасць сітуацыі, якую змог стварыць ці падгледзець аўтар.

Паштоўка суправаджаецца пачатковымі літарамі лацінскага выказвання "Pro felicitate" (на шчасце) — PF і лічбамі новага года. У маёй калекцыі навагодняя фотапаштоўкі ад калегаў з Літвы і Расіі, Латвіі і Эстоніі, Польшчы і Украіны... І ў кожнай з іх — сардэчнасць і павага да калегі і сябра.

Няма сумненняў, што і ў гэтым годзе пошта прынясе фотапаштоўкі з надпісам PF-2001. А я, са свайго боку, віншуючы сваіх калегаў, пашыраю кола сяброў і віншую сваёй паштоўкай усіх чытачоў нашай газеты.

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

*НА ЗДЫМКАХ: фотавіншаванне нашым чытачам дасылае аўтар артыкула; фотапаштоўкі розных гадоў і з розных краін прыслалі: 1. Эганс Спурыс (Рыга). 2. Юрый Шпагін (Ніжні Ноўгарад). 3. Ромас Ракаўскас (Каўнас). 4. Зіновій Шэгельман (Ізраіль). 5. Віталь Бутырын (Саюз фотамастакоў, Вільнюс).*
















**КЛУБ БЕЛАРУСКІХ ШКОЛ**

## СВЯТКАВАННЕ ЮБІЛЕЮ Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА Ў ВІЛЬНІ

Беларусы, як і ўсе народы свету, маюць сваіх выдатных сыноў, якія сваім прыкладам жыцця, геніяльным прадбачаннем яднаюць жывую повязь пакаленняў, мацуюць нацыянальны дух, неўміручасць народа.

70-годдзе з дня нараджэння славутага беларускага пісьменніка, заснавальніка нацыянальнага гістарычнага рамана — Уладзіміра Караткевіча адзначылі вучні і настаўнікі Віленскай сярэдняй школы імя Ф. Скарыны.

У невялікай утульнай школьнай зале гучалі ўспаміны пра знакамітага пісьменніка, чыталіся яго вершы. Выкладчыца беларускай літаратуры Віленскага педагагічнага універсітэта Ніна Пяткевіч распавядала пра жыццёвы і творчы шлях У. Караткевіча. З вуснаў Галіны Войцік-Луцкевіч, якая мела магчымасць сустрэцца з У. Караткевічам у Вільні, пачулі мы пра гэтага незвычайнага чалавека. Цёплымі словамі пра свайго сябра па перапісцы адазваўся Аляксей Анішчык, вядомы ў Вільні грамадскі дзеяч.

На юбілейную імпрэзу завіталі і іншыя паважаныя госці, сярод якіх быў і Лявон Мурашка, прэзідэнт Згуртавання беларускіх грамадскіх суполак у Літве.

Ва ўспамінах старэйшых У. Караткевіч выступае не толькі як стваральнік цудоўных празаічных і паэтычных твораў, але і як сябар, як частка іх незабыўнай маладосці.

На ўрачыстай акадэміі прагучала нямала вершаў у выкананні вучняў — Наталлі Бука, Дзмітрыя Латушынскага, Паўла Сівалава, Тацціяны Дашкевіч.

Вучнямі 7 і 12 класаў былі паўстаўлены ўрыўкі з рамана "Каласы пад сярпом тваім". Дапамагалі ў пастаноўцы настаўнікі роднай мовы і музыкі Алена Базюк і Валянціна Кавальчук.

Пакуль будзе існаваць жыццё на зямлі, датуль сэрца кожнага беларуса будзе саграваць сонца, імя якому — Уладзімір Караткевіч.

**Наталля ПУТНОВА,**
вучаніца Віленскай сярэдняй школы імя Ф. Скарыны.

**ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

**ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ, БЕЛАРУСЫ, РАСКІДАНЫЯ ВЕТРАМ ЛЁСУ ПА ЎСІХ КАНТЫНЕНТАХ, ПА ЎСІХ КУТКАХ СВЕТУ!**

**Шчыра віншуем вас з надыходзячым Нараджэннем Хрыстовым і Калядамі, Новым годам!**

**Нам з вамі пашчасціла жыць на пераввале эпох. Сёння сустракаем не звыклы Новы год, а — 2001-шы! Удумваючыся ў пражытае і перажытае намі асабіста, нашым народам, аналізуючы падзеі гісторыі нашай Радзімы, мы з надзеяй, трывогай і верай пачынаем новае тысячагоддзе. Вядома ж, нам не дадзена прадбачыць наканаванні Боскай волі, але наш лёс у новым тысячагоддзі, узровень цывілізаванасці нашай дзяржавы, сацыяльнага стану яе грамадства залежыць і ад нас саміх.**

**Паспрыяем жа нашай Бацькаўшчыне ў лепшай долі!**

**Паважаныя суайчыннікі!**

**Хай у новым годзе ладзіцца жыццё ў вашых сем'ях і ў тым грамадстве, у якім вы жывяце! Зычым вам моцнага здароўя і многа сіл на добрыя, высакародныя мэты, спакою ў душах вашых і дабрабыту ў вашым доме! Памятайце: вы патрэбны сваёй Бацькаўшчыне — Беларусі! Дык няхай жа ніколі не згасне любоў да яе ў вашых сэрцах!**

**З Нараджэннем Хрыстовым і Калядамі, з Новым, 2001 годам, дарагія суайчыннікі!**

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".*

**SOS**

## МАЛДОВА ПРОСІЦЬ ДАПАМОГІ

**На імя прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь У. Ярмошына паступіла пісьмо кіраўніка ўрада Малдовы Думітру Брагіша, у якім выказваецца просьба малдаўскага боку разглядзець магчымасць аказання пасільнай матэрыяльнай і фінансавай дапамогі ў сувязі са стыхійным бедствам, якое напаткала Малдову.**

**Думітру Брагіш паведамляе, што з-за працяглых дажджоў і наступнага абледзянення ў энергетыцы і сельскай гаспадарцы Малдовы склалася надзвычайная сітуацыя. Пацярпеў кожны трэці населены пункт, разбурана 2 500 кіламетраў ліній электраперадач, больш за 35 тысяч электраапор, 450 кіламетраў ліній тэлекамунікацый. У раёнах, якія найбольш пацярпелі, патрэбна поўнае аднаўленне энергетычнай сістэмы. Сотні тысяч сем'яў засталіся без святла, цяпла, тэлефоннай сувязі, практычна спынена работа установ аховы здароўя і адукацыі.**

**У сувязі з гэтым пасольства Малдовы ў Беларусі паведаміла, што ў Нацыянальным банку Малдовы адкрыты спецыяльныя рахункі для збору грашовых сродкаў: у малдаўскіх леях — 3357003, у доларах ЗША — 3211084015, у нямецкіх марках — 3211628015, у еўра — 3211297815, у расійскіх рублях — 3211564315.**

**Шэрагу беларускіх міністэрстваў даручана разгледзець просьбу малдаўскага боку і ўнесці прапановы ва ўрад.**

**БелТА.**

## Анатоль СЫС: «...КАБ НАМ НЕ БІЦЬ ПАКЛОН АРЛАМ — АЙЧЫНЕ ТРЭБА НОВЫЯ МУЖЧЫНЫ!»

шы: наблізілася яна ці не да таго чароўна-небяспечнага агню, дачыненне да цяпла якога караецца заўчаснай цялеснай альбо духоўнай смерцю. Тое, відаць, адбылося з Пушкіным, Лермантавым, Ясеніным... Прыкладаў, як кажуць, болей чым дастаткова. Нам застаецца радавацца толькі аднаму: таленавітыя творы жывуць пры любых умовах. Дык давайце проста пачытаем вершы нашага Нябам абранага суайчынніка і сучасніка.

**Анатоль СЫС**

### ПАЦІР

**Знайшлі пацір, слязамі поўны,**
**ніхто не ведае чыімі.**
**Сэрабранае ў срэбным — поўню**
**пакутнік нейкі расчыніў.**

**Ад зла, спакус, грахоў замову**
**гугнявіў голас за сцяной...**
**Знайшлі на дне паціра слова,**
**з малітвы выпала яно:**
**КАХАЮ —**
**вочы прачыталі,**
**КАХАЮ —**
**вусны прашапталі,**
**КАХАЮ —**
**душы прастагналі,**
**КАХАЮ —**
**людзі закрычалі.**

**Каго!**

**Паэт сказаў: Айчыну!**
**Жаўнер: дзяўчыну!**
**Хтось: сябе!**
**І сталі дружна,**
**шчыра, шчыльна,**
**як на касьбе ці на сяўбе.**

**А ён канчаўся у знямозе —**
**ніхто яго не пакахаў,**
**з паціра выплюхнулі слёзы,**
**і налілі праз край віна,**
**і сталі дружна, шчыра, шчыльна,**
**як на касьбе ці на сяўбе,**
**паэт сказаў: п'ем за Айчыну!**
**І кожны выпіў: за сябе...**

### СЭРЦА

**Мне на сэрцы золатам**
**вышывалі краты,***
**кроў балюча крапала на маю душу**
**з голкі дыяментавай аж у тры караты —**
**вось якое дзіва я ў грудзях нашу.**

** — Радок з верша А. Філіповіча.*

**А бывае, падаю з усяго размаху,**
**дык на сэрцы золатам шэсць крыжоў звіняць**
**аб зямельку родную, быццам меч аб пляху —**
**ні вінам, ні лекамі боль той не суняць.**

**Дзе ўпаду, каб ведаў я, дык падклаў падушку б, —**
**але ж вочы-зоркі сочаць на бяду,**
**мабыць, цяжар кратаў датуль насіць мушу,**
**пакуль у магілу-матку не ўпаду.**

**Мне на сэрцы золатам лёс мой вышывалі,**
**нітак не хапіла на апошні прэнт,**
**а калі паўмёртвага мяне пакідалі —**
**уваткнулі ў сэрца голку-дыямент.**

**Можа, каму трэба залатая нітка,**
**голка з дыяменту, я вас папрашу,**
**калі вам няцяжка, калі вам нябрыдка —**
**выратуйце сэрца, вызвальце душу!**

**Гэта ж вельмі проста:**
**нітку — у клубочак,**
**голку — у скарбонку,**
**што ў крыві — дарма,**
**без віны ды боязі спіце сабе ўночы,**
**ну а вашым ворагам сніцца хай турма.**

**З матамі, вар'ятамі,**
**з сабакамі іклатымі,**
**ды пад аўтаматамі,**
**з залатымі кратамі**
**будзе**
**хай**
**яна!**

### БУДЗЬМА

**Мы не будзем дзяліць мяжы,**
**і таму хай слупы памежныя**
**нас ахоўваюць, як крыжы,**
**косці тленныя, душы грэшныя.**

**Мы не будзем дажджы дзяліць**
**і масты залатых вясёлак,**
**бо смяротнаму не пераіжыць**
**нават самы кароткі золак.**

**Мы не будзем дзяліць палын,**
**і за долю, як за дзяўчыну,**
**нам не трэба чужы калым**
**і жаніх з касымі вачыма.**

**Мы не будзем дзяліць любоў,**
**калі ж будзем, дык толькі гора,**
**яно здарыцца можа, бо**
**вакол нас і садом, і гамора.**

РАДАВОД



*Тата, мама і Янка чатыры гады назад.*

# ЯН-ВІНЦЭНТ — МАЛЕНЬКІ ПРЫНЦ З МІНСКА

● Ірына КУЗНЯЦОВА.

Для маленькага Яна-Вінцэнта падарожжа ў Парыж пачалося з вялікай выставы "Мастацкія дынастыі", што адбылася ў Мінску ў лютым. А дынастыя, з якой паходзіць Ян Луцэвіч, сапраўды знакамітая. Толькі хлопчык у свае чатыры гады яшчэ гэтага не разумее. Проста мама Зоя, бабуля Света, дзед Алег, прадзед Сяргей Каткоў — усе мастакі. Але для свету мастацтва дынастыя Катковых — з'ява знакавая. У Сяргея Каткова вучыліся ўсе, хто сёння з'яўляецца гордасцю беларускага мастацтва.

Малюнак, які быў адабраны для выставы ў Францыі, Ян намаляваў, калі быў настрой, паміж гульнямі. А мама і бабуля змясцілі яго ў рамку і павесілі побач са сваімі работамі. Не паспела выстава закрыцца, як з Парыжа прыйшло запрашэнне да ўдзелу ў дзіцячай выставе, якую ініцыіравала ЮНЕСКА.

Выстава адбылася ў горадзе Труа. На ёй былі прадстаўлены чатыры тысячы малюнкаў з 56 краін. Удзельнікі падзяляліся на пяць узроставых груп (ад 3 да 25 гадоў). Янка, зразумела, апынуўся ў ліку самых маленькіх мастакоў.

Спачатку малюнак Янкі адправіўся ў падарожжа, а праз месяц — і сам Янка з мамай Зояй Луцэвіч паехалі па ўзнагароду.

Што да гэтага ведаў Ян-Вінцэнт пра Францыю! Бадай, толькі, што там жыў казачнік, які расказаў свету пра Маленькага прынца. Цяпер жа ва ўяўленні хлопчыка замацаваліся падарожжа на Эйфелеву вежу, расказы мамы пра казачныя хімеры Сабора Парыжскай Божай Маці.

Той конкурсны малюнак застаўся ў далёкай краіне. Але і гэты, што змяшчае "Голас Радзімы", падказвае: у маленькім Янку плённа перапляліся тры прасторы часу: мінулае, сучаснасць і будучыня. І нам трэба пачакаць, каб даведацца, якія яшчэ здольнасці дараваны Янку Луцэвічу. Магчыма, і музычныя, бо яго тата — вядомы рок-музыкант, гітарыст знакамітага гурта "Крыві" Піт Паўлаў. Унікальная музыка, якой аддае перавагу бацька Янкі, таксама спалучае мінулае і сучаснасць і мае назву art-modern-folk.



*Янка ЛУЦЭВІЧ і адзін з яго апошніх малюнкаў.*





*Леанід БАРТКЕВІЧ, Зоя ЛУЦЭВІЧ, Піт ПАЎЛАЎ, Ліза і Аляксандр КАТКОВЫ ў навагоднюю ноч-2000.*

ДЭБЮТ

**ПЕРШЫ СНЕГ**

Учора першы снег пайшоў,
Нібыта ў вальсе закружыўся.
Бялюткім покрывам лажыўся,
Ляцеў на дрэвы і на дол.
І паступова дзень праходзіў...
А ўвечары мароз прыходзіў.
Узвёў на рэчцы дзіўны мост,
Паставіў шмат завей на пост.
Мяцеліца спявала ноччу
Нам калыханачку сваю...
А снег ішоў усё ў лясочку
І пухам укрываў зямлю.

Вольга СЯЦКО, дзевяцікласніца.

Чэрвень.

КРЫЖАВАНКА АД Святланы ФАЦЕЕВАЙ

*ПЕРАКЛАДЗІЦЕ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ*




ПА ГАРЫЗАНТАЛІ. 1. Кожаный сапог. 4. Хоровод. 7. Лягушка. 8. Горная цепь, кряж. 9. Сугроб. 10. Ухо. 12. Лицо. 14. Сосуд, посудина. 17. Кофе. 18. Пуля. 19 Ель. 20. Простор, ширь. 21. Кровать. 22. Рыло (свиньи). 24. Вступление, введение.

ПА ВЕРТЫКАЛІ. 2. Приданое. 3. Звезда. 5. Диван. 6. Художник. 11. Внимание. 13. Крючок к одежде. 15. Знамя. 16. Идол, истукан. 21. Судьба. 23. Плут, мошенник.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## «КАЛІ ТАТА — ДЗЕД МАРОЗ»

Такую назву мае першая паэтычная кніга Тацяны Мушынскай, адрасаваная дзецям, і трэцяя паэтычная кніга ўвогуле. У папярэднія гады ў прыватных выдавецтвах выйшлі яе зборнікі "дарослых" вершаў — "Я вандрую ў стагоддзях" і "Рабро Адама".

Чым адметная апошняя кніга? Найперш радасасветлым, непасрэдным і нават узнёслым успрыманнем жыцця. 50 вершаў, якія ўвайшлі ў зборнік, утварылі дзве часткі — "Залатыя дзьмухаўцы" і "Гукі раніцы". У першай з іх пераважаюць малюнкі прыроды, пейзажныя замалёўкі. Гэтая частка — своеасаблівы каляндарны цыкл, каляндарнае кола, якое пачынаецца Новым годам. Потым паступова з'яўляюцца вясновыя краявіды, малюнкі летняй прыроды. І, нарэшце, — восеньскія.

Другая частка кнігі — "Гукі раніцы" — адлюстроўвае свет дзіцячых гульняў і захапленняў.

Інтанацыя вершаў розная: лірычная, пранікнёная, задуменная, але часцей вясёлая і крыху гарэзная. Шмат у вершах музычнасці. Можа, менавіта таму некаторыя з іх з'явіліся асновай харавых твораў і песень, напісаных кампазітарамі Аленай Атрашкевіч, Марынай Марозавай, Віктарам Кажухарам.

Нельга не сказаць пра мастака-афарміцеля кнігі Галіну Хінка-Янушкевіч — адну з найбольш папулярных мастакоў-графікаў. Творчасць Галіны вельмі высока цэняць і чытачы, і аўтары кніг.

Вершы і мастацкае афармленне кнігі вельмі ўдала пасуюць адзін аднаму. Яны дораць чытачу цеплыню, радасць, святло.

Зборнік "Калі тата — Дзед Мароз" можа стацца добрым навагоднім падарункам.

Юрась ІВАНЧУК.

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Тацяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Спецыяльныя карэспандэнты Яўген КАЗЮЛЯ, Алесь МЯСНІКОЎ, Нэлі ПРЫВАЛАВА.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 678 экз.
Зак. 3330.
Падпісана да друку 25.12.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).